*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 38(423) 22 ВЕРАСНЯ 1999 г.

## Ці абароніць Канстытуцыйны Суд беларускую мову?

Яшчэ з самага дзяцінства слова "суд" выклікала ў мяне калі не страх, то ва ўсякім разе нейкія непрыемныя пачуцці. Пра судовыя працэсы я мела ўяўленне па аповедах людзей, для якіх гэтае слова азначала адно – пакаранне. Старэйшае пакаленне маіх землякоў яшчэ і цяпер памятае, як ад савецкага суда вымушаны былі хавацца ў нашых лясах патрыёты Глыбоцкага педвучылішча ў 50-ыя гады. А які панічны страх апаноўваў людзей перад міліцыянтамі, што пільна сачылі і прынюхваліся на вясковых вуліцах, з якога коміна ішоў спецыфічны пах. Заглядалі ў вокны, высочвалі тых, хто гнаў для сваіх патрэбаў гарэліцу, гэтую і на сённяшні дзень нязменную валюту. Судзілі за каласок, адбіралі ў селяніна ліішні ахапак сена.

Гэтыя ўспаміны дзяцінства дзіўным чынам звязаны з сённяшнім днём, а менавіта з маім наведваннем Канстытуцыйнага Суда, на паседжанне якога былі запрошаны сябры Сакратарыята ТБМ пасля нашага звароту да юрыстаў і суддзяў краіны, апублікаванага ў сродках масавай інфармацыі. Гэта было незвычайнае паседжанне, можа, нават у нечым гістарычнае, бо ўпершыню яно вялося на беларускай мове. Тое, што ў іншых народаў гэта натуральна, інакш і быць не можа, для нас жа – падзея. Асабіста для мяне тут было ўсё незвычайным.

Казённы дом... У невялікай добра абсталяванай зале, якую шмат разоў даводзілася бачыць толькі па тэлевізары, сабраліся ўдзельнікі: прадстаўнікі бакоў, запрошаныя. Адчувалася, што яны ведаюць, чым будзе адметнае гэта паседжанне, бо ў размове паміж сабою згадваліся родныя мне словы – "ТБМ", "беларуская мова", "нарэшце адумаліся" і іншыя. Неўзабаве пагучалі словы: "Прашу ўстаць. Суд ідзе". Суддзі занялі свае рабочыя месцы. Пачалася праца. На гэты раз разглядалася справа "Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь растлумачэння Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 чэрвеня 1995 года "Аб вяртанні залішне спагнаных плацяжоў у бюджэт". Старшыня Суда спадар Васілевіч ад пачатку і да канца вёў паседжанне на добрай беларускай мове, тым самым сцвярджаючы, што і ў гэтай сферы дзейнасці яна гучыць годна і натуральна. З дакладам выступаў суддзя Вераб'ёў. Таксама мовай карысталіся ўсе суддзі, якія задавалі пытанні прадстаўнікам бакоў. Упершыню ў сценах гэтай высокай установы гучала нашае роднае слова. Сімвалічна, што гэта было 8 верасня, у памятны дзень гісторыі нашай краіны, 485-ыя ўгодкі слаўнай перамогі, якую атрымалі нашы продкі пад Воршай у змаганні за сваю незалежнасць. Незалежнасць і беларуская мова– паняцці раўназначныя.

Дык што ж здарылася сёння праз 485 гадоў? Сітуацыя, у якой апынулася наша краіна, калі кожнаму з нас набіла аскоміну палітычная гульня ў інтэграцыю, змушае ўспомніць, хто ж мы такія: ці самастойны нацыянальна акрэслены народ з багатай гісторыяй і культурай, ці проста "Северо-Западный край", у які нас хочуць загнаць далакопы беларушчыны. І тут беларуская мова выступае як абаронца, як надзейная зброя ў захаванні незалежнасці нашай Бацькаўшчыны. Я ганаруся, што кожны сябра Таварыства беларускай мовы далучаны да высакароднай дзяржаўнай справы, галоўнай мэтай якой з'яўляецца садзейнічанне забеспячэнню беларускай мове – рэальнага статуса дзяржаўнай. Прыняўшы такую папраўку ў Статут Таварыства падчас перарэгістрацыі 6 верасня Міністэрства юстыцыі яшчэ раз пацвердзіла, што беларуская мова не павінна быць падчаркай, а заняць належнае месца ў жыцці нашага народа. І хочацца верыць, што Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь абароніць яе ад гвалту і прыніжэння.

*Ірына Марачкіна, адказны сакратар ТБМ.*

## Рашэнне Сакратарыята ТБМ

### аб пацверджанні статусу раней пастаўленых на ўлік арганізацыйных структур ТБМ і пастаноўцы на ўлік новых арганізацыйных структур, створаных пасля VI з'езда ТБМ.

6 верасня 1999 г. грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" прайшло перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь і, у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, абавязана ў месячны тэрмін пацвердзіць статус, альбо паставіць на ўлік у адпаведных абласных (гарадскіх) упраўленнях Міністэрства юстыцыі ўсе свае рэгіянальныя структуры.

У адпаведнасці з вышэйсказаным, **Сакратарыят ТБМ пастанаўляе:**

I. Усе кіраўнікі рэгіянальных структур, якія раней стаялі на ўліку ў мясцовых гарвыканкамах павінны прадставіць да 30 верасня 1999г. у сядзібу ТБМ наступныя дакументы:

1) Спісы сяброў свайго кіраўнічага органа (рады) у адпаведнасці з дадаткам № 5

у з о р:

Спіс сяброў выбарнага органа арганізацыйнай структуры
**грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**

| № п/п. | Прозвішча, імя, імя па-бацьку | Год нараджэння | Месца трывалага знаходжання | Месца працы тэл. | Пасада ў выбарным органе |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | | | | | |
| 2. | | | | | |
| ... | | | | | |

Старшыня _____________арганізацыі
ТБМ імя Ф.Скарыны ..................... (....................................)

2) Даведка аб наяўнасці **юрыдычнага адраса** свайёй арганізацыі.

II. Кіраўнікі раней незарэгістраваных рэгіянальных структур ТБМ акрамя вышэйзгаданых папер дасылаюць у сядзібу ТБМ да 30 верасня пратакол свайго кіраўнічага органа аб стварэнні адпаведнай структуры ТБМ.

16 верасня 1999 г.

## ТБМ на "Дні ведаў"

Неблагі прыклад кіраўніцтву іншых школ падала дырэктар СШ № 15 г.Менска Галіна Бортнікава, запрасіўшы на Дзень ведаў прадстаўнікоў Таварыства беларускай мовы.

У актавай зале сабраліся ўсе сёмыя класы школы. Перад імі выступілі першы намеснік старшыні ТБМ Мікола Лавіцкі і намеснік старшыні Свіслачскай рады ТБМ Ленінскага раёна г.Менска Мікола Галаўнёў. Яны расказалі аб дзейнасці Таварыства, ролі мовы ў грамадстве, гісторыю яе паходжання, чаму яе трэба шанаваць і берагчы. Паказалі на прыкладах, што адбываецца з тымі, хто забывае гісторыю, мову сваіх продкаў.

Вучням давялося глыбока задумацца над вядомым выслоўем, запушчаным нашымі нядобразычліўцамі, што мова, маўляў, каўбасу не робіць танней і не павялічвае прадукцыйнасць. Для іх з'явіліся адкрыццём прозвішчы славутых продкаў: Наркевіч – Ёдка, Сімановіч іх вынаходніцтва.

Выступоўцы перадалі бібліятэцы школы падборку літаратуры і часопісаў. Сярод іх: "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак", "Беларусь учора і сяння" і інш., а таксама афармілі бясплатную падпіску на газету "Наша слова".

Станоўчы прыклад-выступленне перад вучнямі. Добра б было каб супрацоўніцтва са школамі не абмяжоўвалася толькі Днямі ведаў, а, напрыклад, запрашаліся сябры ТБМ дапамагчы настаўнікам пры абыходзе кватэр для запісу дзяцей у першыя класы. Тады мо было б меней такіх бацькоў, якія не здольныя самі вывучаць мову карэннага этнасу, сабраўшы заявы ад недасведчаных бацькоў аб "жаданні" навучаць дзяцей па-расейску, вырашылі ўласную праблему такім шляхам. І гэтым самым спрыяць вырошчванню глебы нацыянальнай культуры суседняй дзяржавы на шкоду ўласнай, абдзяляючы дзяцей роднасны. Перафразіраваўшы Я.Лёсіка – расціць гной для культуры чужой.

Будзем спадзявацца, што дойдзе калі-небудзь да розуму "вышэйстаячых" аб неабходнасці такога супрацоўніцтва не толькі з ТБМ, але і з іншымі арганізацыямі, у праграмах якіх нацыянальная ідэя не пустыя гук.

*М.Л.*

## Хоць дажынак і не будзе



Хоць запланаванае і шырока разрэкламаванае свята "Дажынкі-99" і не адбудзецца з-за крытычнага стану сельскай гаспадаркі краіны, жыхары Шклова ў крыўдзе не павінны быць. На добраўпарадкаванне горада затрачаны каля 6 трыльёнаў рублёў. У праграму падрыхтоўкі да свята было ўключана 190 аб'ектаў. Шклоў атрымаў новую школу на 600 месцаў, крыты павільён, басейн, новы маставы пераход цераз рэчкуСерабранку і інш. Дачакалася рэстаўратараў і славутая Шклоўская ратуша. Летась пад дажынкі была праведзена рэстаўрацыя Нясвіжскай ратушы.

На здымку Шклоўская ратуша пасля рэстаўрацыі. Фота Віктара Талочкі, БелТА.

### Абвестка

З кастрычніка месяца ў сядзібе ТБМ 1 раз на тыдзень будуць працаваць курсы для дарослых па вывучэнні нямецкай мовы.

Дзень і час правядзення заняткаў яшчэ не вызначаны. Набіраем групу ў колькасці 20-ці чалавек. Кантактны тэлефон 284-85-11.

## У абарону мовы

1 і 8 верасня ў Жодзіна і Смалявічах мясцовая арганізацыя ТБМ разам з Згуртаваннем моладзі "Ліцьвіны" ладзіла пікеты з мэтай збору подпісаў у абарону беларускай мовы, за адкрыццё першага беларускамоўнага універсітэта і супраць перайменавання праспекта Скарыны ў Менску. З'яўленне пікетчыкаў выклікала цікавасць у гараджан. Усяго ў Жодзіна было сабрана каля 250 подпісаў. Цікава, што сярод падпісантаў вельмі шмат моладзі, моладзь хвалюе, у якой дзяржаве яна будзе жыць і вучыцца

8 верасня пікетчыкі сталі героямі тэлевізійнай перадачы Мыціщчанскага тэлебачання (Маскоўская вобласць). Менавіта ў гэтыя дні тут праходзіў фестываль моладзі Расеі і Беларусі. Расейцам, мабыць цікава было пачуць думкі наконт інтэграцыі, супраць леглыя афіцыйнай. Пад час пікету да БЗМ "Ліцьвіны" і ТБМ далучылася 7 чалавек. Жодзінскія ўлады вялі сябе цывілізавана. У Смалявічах пікет 1-га верасня быў сарваны, але 8-га, не гледзячы ні на што адбыўся. Праўда, міліцыянтаў было ў чатыры разы болей, чым пікетоўцаў.

*Сяргей Пузанкевіч.*





# Чацвёрты міжнародны

З пятага па дзевятнаццатага ліпеня на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта працаваў IУ летні семінар беларускай мовы, літаратуры і культуры. Школа беларусістыкі аднавіла сваю дзейнасць пасля працяглага перапынку, які доўжыўся з 1994 года. Калі першыя тры семінары праводзіліся неўзабаве пасля абвяшчэння суверэннай Рэспублікі Беларусь (што выклікала павышаную цікаўнасць замежных грамадзян да новапаўсталай краіны і яе людзей), то чацвёрты працаваў у час, калі вастрыня ўспрыняцця новага дзяржаўнага ўтварэння часткова згладзілася, затое ў сувязі з вядомымі падзеямі апошніх гадоў значна абвастрыліся праблемы функцыявання беларускай мовы. На сёлетнім семінары менавіта практычнае навучанне мове займала вельмі важнае месца, яно праходзіла ў шасці групах, кожная з якіх складалася з 4-7 слухачоў. Рэалізацыі выразнага моўнага "акцэнту" ў працы семінара садзейнічала тая акалічнасць, што гэтым разам яго асноўным арганізатарам з'явілася кафедра сучаснай беларускай мовы, на якой ад нядаўняга часу ўведзена спецыялізацыя "Беларуская мова як замежная". Кіраўнікі школы беларусістыкі, загадчыца кафедры сучаснай беларускай мовы Лідзія Сямешка і дацэнт гэтай кафедры Вікторыя Ляшук бывалі на падобных мерапрыемствах у Славеніі і Славакіі і, натуральна, выкарыстоўвалі свой досвед падчас арганізацыі беларускага курса. У пачатку семінара пад рэдакцыяй Лідзіі Сямешкі выйшаў з друку першы ў нашай краіне навучальны дапаможнік па беларускай мове для замежных навучэнцаў "Гаворым па-беларуску", падрыхтаваны з улікам спецыфікі вывучэння беларускай мовы замежнымі слухачамі. Вядома, цудаў не бывае, і спадзявацца, што на працягу двух тыдняў дарослыя людзі змогуць дасканала засвоіць навыкі вуснага маўлення новай для сябе замежнай мовы, было б наіўна. Тым не менш, пад канец семінара большасць слухачоў паспяхова адолелі першы этап у вывучэнні беларускай мовы, навучыўшыся весці нескладаную гутарку на беларускай мове на пэўныя тэмы, чытаць беларускія тэксты і трохі пісаць. Гэтая аснова ў перспектыве, у выпадку неабходнасці, дазволіць навучэнцам развіваць і дасканаліць здабытыя навыкі. Лішне казаць, наколькі каштоўнай у прафесійным плане была праца на семінары для шасці выкладчыкаў беларускай мовы, большасць з якіх упершыню выкладалі яе ў замежнай аўдыторыі.

Праграма семінара складалася з трох узаемазвязаных блокаў: практычных заняткаў, лекцый па мове, літаратуры і культуры (напярэдадні семінара тэксты лекцый былі аператыўна надрукаваны), а таксама культурнай праграмы.

У лекцыях па гісторыі, літаратуры і культуры падрабязна асвятляліся праблемы беларускай дзяржаўнасці, беларускай літаратуры ў сістэме ўсходнеславянскай міжлітаратурнай супольнасці, пісьменніцкіх пакаленняў, традыцый і сучаснасці ў беларускім народным мастацтве. Моўны цыкл уключаў лекцыі "Беларуская мова сярод іншых славянскіх" (прачытаў Адам Супрун), "Сучасная беларуская мова і яе гістарычныя вытокі" (Алена Яновіч), "Канцэпцыя ўтварэння і этапы развіцця беларускай літаратурнай мовы" (Ганна Кулеш), "варыянтнасць у беларускай літаратурнай мове" (Сяргей Запрудскі), "Арэальныя даследванні беларускай мовы" (Генадзь Цыхун). Увогуле, лекцыі аказаліся, бадай, самай складанай для курсантаў часткай семінару. З аднаго боку, відаць, не ўсе слухачы, большасць якіх складалі студэнты, былі гатовы засвоіць лекцыйны курс ва ўсёй яго паўнаце. З другога боку, выразнай перашкодай была адсутнасць навыкаў успрымаць вуснае беларускае маўленне. Тым не менш і лекцыйная частка праграмы семінару была дастаткова эфектыўнай. Як і належыць, слухачам быў прапанаваны даволі разнастайны лекцыйны курс з беларускай гісторыі, мовы, літаратуры і культуры. Што ж да названых цяжкасцяў, то яны непазбежныя пры арганізацыі працы любых летніх школ падобнага тыпу.

У рамках культурнай праграмы слухачы наведалі музеі старажытнай беларускай культуры, народнай архітэктуры і побыту, мастацкі, а таксама музеі Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. Курсанты пабывалі ў Нацыянальнай бібліятэцы, пагледзелі батлейку, сустрэліся з пісьменнікамі, мастакамі і з кіраўніцтвам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Нязменнай папулярнасцю карысталіся спеўкі, на якіх слухачы вывучалі песні "Туман ярам", "Ад панядзелка да панядзелка", "Харашуха" і іншыя. 11 і 18 ліпеня слухачы школы, грамадзяне Аўстрыі, Венгрыі, Германіі, Ізраіля, Латвіі, Летувы, Польшчы, Расеі, Румыніі, Славакіі, Фінляндыі і Чэхіі, выязджалі ў Мір і Навагрудак, у Мікалаеўшчыну і Нясвіж.

Значную частку сёлетняга кантынгенту слухачоў склалі студэнты – філолагі, славісты з Карлавага і Будапешцкага ўніверсітэтаў, Даўгапілскага педагагічнага ўніверсітэта і іншых. Большасць сёлетніх удзельнікаў семінару ўпершыню непасрэдна сутыкнуліся з беларускай мовай, але былі і такія, для каго маўленчая практыка не складала асаблівых цяжкасцяў. Зусім вольна пачувалі сябе ў абыходжанні з беларускім словам, напрыклад, дактарантка Эстэр Смолінка з Будапешта, аспірант Юры Каракоў і выкладчыца Людміла Карнюхіна з Масквы. Сярод слухачоў школы былі людзі, чые імёны добра вядомы беларускім навукоўцам-гуманітарыям. Гэта напрыклад, Рышард Радзік з Любліна, аўтар добрага дзесятка цікавых публікацый, прысвечаных станаўленню беларускай тоеснасці і ролі мовы ў гэтым працэсе. Сярод старэйшых удзельнікаў семінара вылучаўся ізраільскі славіст Поль Вэкслер, аўтар выдадзенай у 1974 годзе ў ЗША грунтоўнай манаграфіі пра беларускі і ўкраінскі моўны пурзм, кнігі "Гістарычная фаналогія беларускай мовы" і шэрагу прысвечаных беларускай мове артыкулаў. Спосабам пашырэння кваліфікацыі стаў удзел у працы семінару для славістаў Марыёлы Якубовіч з Кракава, Марыі Кошкавай і Любара Краліка з Браціславы, Лукаса Франка з Вены, Брыты Шродэр з Дзюсельдорфа і іншых.

У запоўненых у канцы курса анкетах многія слухачы напісалі, што яны хацелі б прыехаць і на наступны , пяты семінар беларускай мовы, літаратуры і культуры. Адноўленае ў Менску летняе навучанне замежных грамадзян беларускай мове сведчыць пра тое, што перспектывы прaвядзення наступнага семінару існуюць. Насуперак свайму сённяшняму незайздроснаму становішчу беларуская мова і цяпер застаецца прыцягальным аб'ектам вывучэння для многіх чужаземцаў. Відавочна, далёка не ўсе сёлетнія слухачы ў будучыні змогуць яшчэ раз паўдзельнічаць у працы семінару, не ўсе яны будуць даследаваць або выкладаць беларускую мову. Але пасля заканчэння курса ўсе яны павезлі з сабой на радзіму часцінку Беларусі, важнай часткай якой з'яўляецца наша родная мова.

*Сяргей Запрудскі, г. Менск.*

Віталь Станішэўскі

# Як абеларусіць экран

Сёння неасіміляваныя беларусы амаль не маюць магчымасці жыць у беларускай мове (спажываць культуру на сваёй мове, бавіць вольны час у яе атмасферы, дый проста мець нармальныя чалавечыя зносіны). Асабліва гэтая праблема праяўляецца ў адсутнасці тэлевізіі па-беларуску, бо сёння ТВ – найвялікшая, а таму неад'емная частка культуры чалавека.

Патрэбная альтэрнатыва, і ў якасці яе можа паслужыць ВІДЭА. Беларусы могуць глядзець беларускамоўныя стужкі на відэакасетах. Пытанне №2: А ці будзе што глядзець? Адказы – у сучасным жыцці: з'явіліся фільмы "Ісус", "Пяты элемент", "Страчаны свет. Юрскі парк-2", "Салодкі яд кахання", мульцікі "Прыгажуня ў сонным лесе", "Аліса ў краіне цудаў", "Болта". Безумоўна, гэтага мала, не стае легендаў і суперхітоў. Але пераклад стужкі акупляецца доўга. Відавочная неабходнасць нейкага сталага кола пакупнікоў, якое магло б выкупляць неабходны наклад кожнай новай стужкі адразу пасля яе выхаду. Шукаць пакупнікоў праз рэкламу дорага, доўга і амаль наўгад, бо беларускамоўныя разрозненыя. Таму трэба шукаць іх непасрэдна там, дзе яны засяроджаныя – у беларускамоўных колах. А яны ў гэтых умовах склаліся на базе адраджэнцкіх арганізацыяў (ТБМ, БНФ, Малады Фронт, БСДГ, мноства самастойных суполак). Калі б прынамсі адзін сябра ад кожнай суполкі замовіў фільм, зьявіліся б грошы на новы. Калі ж пераклад яшчэ рыхтуецца, можна абвясціць падпіску, і калі хаця б адзін сябра ад кожнай суполкі падпішацца, адразу выйдзе ўвесь наклад.

Па ўсёй Беларусі варта заснаваць сетку відэазалаў, каб у кожнай мясціне было дзе паглядзець праграмы на сваёй мове, правесці час у беларускамоўным асяроддзі. Трэба знайсці памяшканне, тэлевізар, відэамагнітафон, зрабіць графік паказаў і аб'явы (не толькі ў "сваіх" газетах, але і на слупах). Сетка відэазалаў можа на час стаць альтэрнатыўнай тэлевізіі. Такія відэазалы можна стварыць таксама на базе суполак, таму прынамсі адзін фільм ад кожнай суполкі можа быць замоўлены хаця б для агульнай відэатэкі.

Прыклад ёсць: штосуботу ў Менску ТБМ збірае гледачоў на паказы стужак на беларускай мове. Такі досвед варта пашырыць на ўсю краіну.

У такіх відэазалах можна не толькі адпачываць. Сёньня відэа – найпапулярны занятак, таму, ладзячы паказы стужак на роднай мове для абруселых землякоў, можна прышчапляць ім любоў да яе і навучыць ёй. Можна ў відэазалах і выхоўваць патрыятызм праз адпаведныя фільмы, бо сёньня кіно мае эфект, большы за кнігі. (Расейскія нацысты ў Беларусі гэта даўно разумеюць і круцяць навічкам сваё кіно. І, каб выжыць, беларусы проста ня маюць права саступаць.)

Праз сетку відэазалаў можна даносіць і рэгулярныя праграмы – навуковыя, музычныя, дзіцячыя і, што важна, палітычныя. (Штотыднёвыя ці штомесячныя – тэхнічнае пытанне). Гэтаксама "Взгляд" у Расеі распаўсюджвалі на касетах, калі ён быў забаронены. І ў нас мусіць быць хоць адна незалежная студыя.

Такім чынам, неабходна, каб з усімі, хто гатовы набываць і падпісвацца на фільмы, былі наладжаныя сувязі дзеля аператыўнай каардынацыі. Новыя фільмы з'явяцца хутчэй, калі можна будзе адразу звярнуцца да гэтых людзей. Новыя фільмы будуць – прынамсі, я іх гарантую. Першы мой крок – пераклад "Пятага элемэнта". Наступныя крокі будуць магчымыя з вашай дапамогай. Таму я прашу, асабліва кіраўнікоў суполак: калі Вы гатовыя да ўдзелу, дайце ведаць і паведаміце свае каардынаты. Тэл. С. – 2134352, 2845012, х. – 2407801 (код 017). Адрас – 220107, а/с 150.

(Можна набыць (н) ці запісаць (з) фільмы "Ісус" (н,з), "Пяты элемент" (н,з), "Салодкі яд кахання" (н), "Прывід у сталёвай масцы" (з), мульфільмы "Прыгажуня ў сонным лесе" (н), "Аліса ў краіне цудаў" (н), "Болта" (н).

Абвяшчаецца падпіска (н,з) на фільм "Адважнае сэрца".)

## Пяты элемент па-беларуску

Ужо некалькі тыдняў, як маладзёжная арганізацыя ТБМ ладзіць бясплатны паказ фільмаў, дубляваных на беларускую мову. Дэманстрацыі адбываюцца па суботах а 12-й гадзіне ў сядзібе Таварыства, што знаходзіцца на вул. Румянцава, 13 (тэл. 284-85-11).

Адной з першых дэманстравалася стужка вытворчасці ЗША "Пяты элемент". Гэта цудоўны фантастычны фільм, прасякнуты вераю ў тое, што каханне заўжды перамагае зло. У ім занятыя такія зоркі кіно як Брус Уілс, Гары Олдман, Міла Явовіч і іншыя. Пераклад гэтай стужкі на беларускую мову здзейснілі маладыя энтузіясты Віталь Станішэўскі і Ганна Каморнік.




Таксама ў ТБМ акрамя "Пятага элементу" можна прагледзець і набыць дубляваныя на беларускую мову фільмы "Ісус", "Парк Юрскага перыяду", мультфільмы "Прыгажуня ў сонным лесе" і "Аліса ў краіне цудаў". Зараз праз структуру Таварыства здзяйсняецца праект перакладу на беларускую мову лепшых польскіх стужак, якія яшчэ не паказваліся ў расейскім перакладзе. Замаўляць: 220107, г. Менск, п/с 150, тэл. 2134352, 2407801, В. С.

## Мультфільмы па-беларуску

**"Болта", "Аліса ў краіне цудаў", "Прыгажуня ў сонным лесе"** - мультыплікацыйныя фільмы, дубляваныя пабеларуску акцёрамі вядучых менскіх тэатраў. **"Ехаў казачнік Бай", "Беларускія народныя казкі", "Стойкі алавяны салдацік", "Каліф - бусел", Цік-так ходзікі"** - аўдыёкасеты для маленькіх з вершамі, казкамі, песнямі.







Кошт відыякасеты - **900 тыс. руб.**, кошт аўдыёкасеты - **400 тыс. руб.**

Касеты можна атрымаць, пералічыўшы грошы звычайным паштовым пераводам на рахунак: **ЗАТ "Сотвар" р/рахунак № 2120000000541 у філії 506 ААБ "Беларусбанк", код 809.** У графе "Для пісьмовага паведамлення" напішыце, якую касету Вы замаўляеце. Менчукоў просім тэлефанаваць: **228-45-88, 228-45-87**, або завітаць у сядзібу ТБМ на адрас: **вул. Румянцава, 13.**

*Як гэта было*

# Чацвёрты (вераснёўскі) падзел Рэчы Паспалітай

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**Рыбентроп Шуленбургу. *Тэлеграма. 19.09.1939 г. Асабіста.***

"... Вы па майму настаянні інфармуйце яго (Сталіна) аб тым, што па гадненні, якія я заключыў у Маскве па даручэнні Фюрэра будуць усё ж захоўвацца, і што яны разглядаюцца намі, як аснова новых сяброўскіх адносін паміж Германіяй і Савецкім Саюзам".

***Газета "Правда" 19.09.1939 г.* Германа-Савецкае Камюніке.**

"... кіраўніцтва СССР і кіраўніцтва Германіі заяўляюць, што дзеянні гэтых войск (савецкіх і нямецкіх) не маюць на ўвазе якой-небудзь мэты, што ідзе ўразрэз з інтарэсамі Германіі ці Савецкага Саюза і супярэчаць духу і літары пакту аб ненападзе, заключанага паміж Германіяй і СССР. Мэта гэтых войск, наадварот заключаецца ў тым, каб аднавіць у Польшчы парадак і спакой, парушаныя распадам польскай дзяржавы і дапамагчы насельніцтву Польшчы перабудаваць умовы свайго дзяржаўнага існавання".

***Газета "Праўда" 20.09.1939 г.***

"... Германскае насельніцтва аднадушна ўспрымае рашэнне савецкага кіраўніцтва ўзяць пад ахову роднаснае савецкаму народу беларускае і ўкраінскае насельніцтва Польшчы, пакінутае на выпрабаванне лёсу збегшым польскім кіраўніцтвам. Берлін у гэтыя дні прыняў асабліва ажыўлены выгляд. На вуліцах каля вітрын і спецыяльных шчытоў, дзе вывешаны карты Польшчы, увесь дзень тоўпяцца людзі. Яны ажыўлена абмяркоўваюць паспяховыя аперацыі Чырвонай Арміі..."

"Усе ўчарашнія італьянскія газеты пад буйнымі загалоўкамі надрукавалі звесткі аб руху савецкіх войск у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне..."

**Шуленбург у МЗС Германіі. *Тэлеграма. 20.09.1939 г. Вельмі сакрэтна!***

"...Молатаў даў зразумець, што першапачатковы намер, які выношваўся Савецкім кіраўніцтвам і асабіста Сталіным, — дапусціць існаванне астатку Польшчы – цяпер уступіў месца намеру раздзяліць Польшчу па лініі Пліса-Нароў-Вісла-Сан. Савецкае кіраўніцтва жадае тэрмінова пачаць перамовы па гэтым пытанні і правесці іх у Маскве".

***Газета "Праўда" 23 верасня 1939 г.* Германа-савецкае камюніке.**

"Германскае кіраўніцтва і кіраўніцтва СССР устанавілі дэмакрацыйную лінію паміж германскай і савецкай арміямі..."

**Рыбентроп Шуленбургу. *Тэлеграма. 23.09.1939 г. Асабіста. Вельмі сакрэтна!***

"Ідэя рускіх аб памежным рубяжы па лініі добра вядомых чатырох рэк наогул супадае з пунктам гледжання імперскага кіраўніцтва... мы згаджаемся на перамовы ў Маскве... Я вырашыў прыляцець у Маскву сам. Калі ласка, звяжыцеся са Сталіным і Молатавым і тэлеграфуйце мне самы ранні з прапанаваных тэрмінаў".

**Шуленбург у МЗС Германіі. *Тэлеграма. 25.09.1939 г. Цалкам сакрэтна! Тэрмінова!***

"Сталін... прапануе наступнае: з тэрыторыі на ўсход ад дэмакрацыйнай лініі ўсё Люблінскае ваяводства і тая частка Варшаўскага ваяводства, якая даходзіць да Буга, павінны быць дабаўлены да нашай долі. За гэта мы адмаўляемся ад прэтэнзій на Літву".

***Газета "Праўда" 28 верасня.* Аператыўная зводка Генеральнага штаба РККА.**

"На працягу 27 верасня часткі Чырвонай Арміі, працягваючы рух да дэмакрацыйнай лініі, занялі Грабава, Мазавецк, Драгічын, Кракавец, Масціска і ст. Сянкі. Аперацыі па ачышчэнню тэрыторыі Заходняй Беларусі... ад рэшткаў польскіх войск працягваюцца".

***Газета "Праўда" 29 верасня 1939 г.***

"На працягу 27-28 верасня ў Маскве адбываліся перамовы паміж Старшынёй Саўнаркама СССР і Наркамзамсправаў Молатавым і Міністрам Замежных спраў Германіі фон Рыбентропам... У перамовах прымалі ўдзел Сталін... Перамовы закончыліся падпісаннем германа-савецкай дамовы аб дружбе і мяжы паміж СССР і Германіяй, а таксама абменам лістамі... па эканамічных пытаннях".

**Германа-савецкая дамова аб дружбе і мяжы паміж СССР і Германіяй.**

"Кіраўніцтва СССР і Германскае кіраўніцтва пасля распаду былой Польскай дзяржавы разглядаюць выключна, як сваю задачу ўстанавіць спакой і парадак на гэтай тэрыторыі і забяспечыць народам, пражываючым там, мірнае суіснаванне, якое адпавядае іх нацыянальным асаблівасцям. З гэтай мэтай яны прыйшлі да згоды ў наступным:

Артыкул II. Абодва бакі прызнаюць устаноўленую ... мяжу абаюдных дзяржаўных інтарэсаў канчатковай і ўхіляць усякае ўмяшанне трэціх краін у гэта рашэнне".

**Сакрэтны дадатковы пратакол. 28.09.1939 г.**

Сакрэтны дадатковы пратакол, падпісаны 23 жніўня 1939 года, павінен быць выпраўлены ў пункце 1, вылучаючы той факт, што тэрыторыя Літоўскай дзяр-жавы адышла ў бок уплыву СССР, у той час, калі з другога боку Люблінскае ваяводства і частка Варшаўскага ваяводства ады-шлі ў сферу уплыву Германіі (...). Як толькі кіраўніцтва СССР прыме спецыяльныя меры на Літоўскай тэрыторыі для абароны сваіх інтарэсаў, сапраўдная Германа-Літоўская мяжа, з мэтай устанаўлення натуральнага і простага памежнага апісання, павінна быць выпраўлена такім чынам, каб літоўская тэрыторыя, размешчана на паўднёвы захад ад лініі, абазначанай на прыкладзенай карце, адышла да Германіі""

"Абодва бакі не будуць дапускаць на сваіх тэрыторыях ніякай польскай агітацыі, закранаючай тэрыторыю другога боку. Яны будуць душыць на сваіх тэрыторыях усе крыніцы падобнай агітацыі і інфармаваць сябра аб мерах, прадугледжаных з гэтай мэтай".

***Газета "Праўда" 30 верасня 1939 г.***

Перад ад'ездам з Масквы... фон Рыбентроп зрабіў супрацоўніку ТААС наступную заяву:

1.Германа-савецкая дружба цяпер устаноўлена канчаткова. 2. Абодва бакі ніколі не дапусцяць умяшання трэціх краін ва ўсходне-еўрапейскія пытанні. 3. Абедзве дзяржавы жадаюць, каб мір быў устаноўлены і каб Англія і Францыя перапынілі цалкам бессэнсоўную і безперспектыўную барацьбу супраць Германіі. 4. Калі, аднак, у гэтых краінах возьмуць верх падпальшчыкі вайны, то Германія і СССР будуць ведаць, як адказаць на гэта... Перамовы адбываліся ў асабліва сяброўскай і надзвычайнай атмасферы. ... я хацеў бы адзначыць выключна сардэчны прыём, аказаны мне савецкім кіраўніцтвам і ў асаблівасці Сталіным і Молатавым".

*У першыя дні кастрычніка нямецкія войскі ліквідавалі апошнія агмені супраціўлення польскіх рэгулярных часцей. Польская армія страціла 66,3 тыс. забітымі, 133,7 тыс. раненымі, 420 тысяч апынуліся ў палоне.*

*Страты нямецкай арміі: 10,6 тыс. забітымі, 30,3 тыс.раненымі, 3,4 тыс. прапаўшымі без вестак.*

**З дакладу Молатава на паседжанні Вярхоўнага Савета Саюза ССР 31 кастрычніка 1939 г.**



***У выніку выбараў, праведзеных 22 кастрычніка 1939 года, былі выбраны дэпутаты Народнага сходу Заходняй Беларусі, які стаў праваможным органам улады працоўных. 29 кастрычніка на яго паседжанні аднагалосна прынялі дэкларацыю аб уваходжанні Заходняй Беларусі ў склад БССР.***

***1939 г. Група беларускіх пісьменнікаў (у цэнтры Я.Купала і Я.Колас) у час перадвыбарнага сходу ў гарадскім тэатры.***

***Фота з архіву БЕЛТА.***

"Няма чаго даказваць, што ў момант поўнага распаду Польскай дзяржавы наша кіраўніцтва абавязана было працягнуць руку дапамогі пражываючым на тэрыторыі... Заходняй Беларусі... братам беларусам. Яно так і паступіла. *(Працяглыя апладысменты. Дэпутаты ўстаюць і ўтвараюць авацыю).*

... Пры баявым руху Чырвонай арміі па гэтых раёнах у нашых воінскіх часцей былі месцамі сур'ёзныя сутычкі з польскімі часткамі... Агульная колькасць ахвяр, панесеных Чырвонай арміяй на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны складае: забітых 737, раненых 1862, гэта значыць усяго 2599 чалавек. Перайшоўшая да нас тэрыторыя Заходняй Украіны разам з тэрыторыяй Заходняй Беларусі складае 196 тысяч квадратных кіламетраў, а яе насельніцтва – каля 13 мільёнаў чалавек, з якіх... беларусаў больш 3 мільёнаў чалавек, палякаў – звыш 1 мільёна, яўрэяў – звыш 1 мільёна..."

*Матэрыял падрыхтаваў кандыдат геаграфічных навук Валеры Слюкін.*

*Да 60-годдзя ўз'яднання Беларусі*

# У гісторыю – праз дзірку ў плоце

Каб увайсці ў гісторыю, трэба здзейсніць нешта вялікае – адкрыццё геройства або злачынства. А мы ўвайшлі гісторыю без ніякіх заслуг перад ёю і нават не ведаючы аб гэтым.

Адбылося гэта ў далёкім ужо і гістарычным 1939 годзе. Тады ўжо спала як пена, хваля вялікага ўздыму, выкліканая вызваленнем нас, заходніх беларусаў ад іга польскіх паноў і памешчыкаў, ужо спыніліся бясконцыя сходы-мітынгі, на якія мы, як на фэст, хадзілі святочна апранутымі ўсёй сям'ёй, ужо сяльчане без указанняў зверху зразумелі, што набліжаецца зіма, і пачалі да яе рыхтавацца, ужо скончыліся нашыя нечаканыя канікулы і мы пайшлі ў школу.

Пайшлі мы ў зусім нова-беларускую савецкую школу... У гэтай школе ўсё было новае – новыя настаўнікі, якімі сталі мястэчковыя сяляне, што заканчвалі настаўніцкія семінарыі яшчэ пры цары і якім палякі не давалі працы таму, што яны не схацелі пераходзіць у каталіцкую веру і рабіцца палякамі. Новымі былі падручнікі і сшыткі, якія нам выдалі бясплатна. Новымі былі і праграмы, у якіх, як у інстытуце, было аж тры мовы, а таксама алгебра і фізіка, батаніка і геаграфія, і само навучанне было на новай беларускай мове. Праўда, мова была не такая ўжо і новая. На ёй мы гутарылі дома, у школе (акрамя ўрокаў), з сябрамі-яўрэямі і з палякамі. Але мы, як тыя сяляне пасля рэвалюцыі, ведалі толькі вусную мову. А чытаць і пісаць на ёй не ўмелі і нам трэба было вучыць яе, як першакласнікам з напісання літар і слоў. Таму ўсіх нас адсадзілі на адзін клас назад і ўсе мы сталі другагоднікамі.

Дзесьці ў палове кастрычніка ў наш клас нечакана, сярод урока, увайшоў дырэктар школы і некалькі незнаёмых дзядзькоў. Яны ўважліва агледзелі памяшканне, а пасля і нас і згодна кіўнулі галовамі. Пасля падышлі да настаўніка і ціха яму нешта сказалі. Дырэктар выйшаў, а дзядзькі пачалі заносіць апаратуру – вялікія лямпы-пражэктары і апарат на трыпозе, падобны да фатаграфічнага. Калі ўключылі пражэктары: стала светла і цёпла як летам.

Адзін з дзядзькоў загадаў нам сядзець ціха, не круціцца і не аглядвацца і выконваць загады настаўніка. А настаўнік загадаў дастаць сшыткі, адкрыць на чыстай старонцы і напісаць тое, што будзе на дошцы. Ён напісаў на дошцы два словы: ЛЕНІН І СТАЛІН. Апа-сля стаў выклікаць нас па чарзе да дошкі і загадаў пісаць гэтыя словы. Так мы пісалі цэлы ўрок. А за нашымі спінамі ўвесь гэты час стракатаў, як кулямёт, той апарат. Калі мы ўсе схадзілі да дошкі, настаўнік аб'явіў нам, што заняткі скончаны і мы можам ісці дамоў. Нас выпусцілі праз чорны ўваход і загадалі ісці не праз школьны двор, а праз дзірку ў плоце, якая вяла ў суседні сялянскі падворак. Мы праходзілі па вузкім сялянскім двары міма гумна, хлява, свіронка і хаты і выходзілі на вуліцу. Там стаяў дзядзька з апаратам і круціў ручку яго. Нас прымусілі прайсці так некалькі разоў патрабуючы, каб мы ішлі кучкамі, весела штурхаючыся.

Мы тады не разумелі, для чаго гэта робіцца. Назаўтра настаўнік патлумачыў нам, што гэта здымалі кіно, мы ўспрынялі гэтую вестку абыякава.

І толькі праз гадоў дзесяць я ўсвядоміў, што мы ўдзельнічалі ў гістарычнай падзеі-здымках сюжэта аб тым, як вызваленыя гераічнай Чырвонай Арміяй заходнебеларускія дзеці ў новай савецкай школе вучацца на сваёй роднай мове і першыя словы, якія яны пішуць, гэта імёны любімых усімі савецкімі дзяцьмі Леніна і Сталіна. Момант і сапраўды гістарычны.

Але я доўга не мог зразумець, чаму кінаматаграфісты выбралі менавіта нашую школу. Яна ж была ў мястэчку за кіламетр ад райцэнтра, размяшчалася ў новым будынку і стаяла на новай шырокай вуліцы. Гэта была не тыповая заходнебеларуская школа.

Але, пазнаёміўшыся з прынцыпамі сацыялістычнага рэалізму, я зразумеў і гэта: у нашай школе была электрычнасць, а ў вёсках яе не было. Будынка школы яны не знялі. А замест шырокай школьнай вуліцы яны знялі сялянскі двор, ён і стаў вуліцай. А ганялі нас праз гэты двор, бо рабілі дублі. Так мы, нічога не зрабіўшы для гісторыі, і ўвайшлі ў яе. Увайшлі праз дзірку ў плоце. Увайшлі ў якасці статыстаў на гэтай гістарычнай сцэне, і нашы сляды хутка згубіліся ў ёй, а дакладней у архівах кінахронікі ТАСС.

Але я не крыўдую на гэта. Якая заслуга, такая і ўзнагарода.

***І. Фурсовіч, Докшыцы.***

*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*

## Сафійскі сабор

1029? 1101

Усяслаў Чарадзей

У летапісах гаворыцца, што князь праліў шмат варожай крыві. Але большую частку свайго доўгага валадарання Усяслаў жыў з суседнімі княствамі ў згодзе і займаўся мірнымі клопатамі. Ён загадаў уз-весці ў Полацку Сафійскі сабор, які вы, напэўна, ужо бачылі на малюнках і фатаграфіях. Сабор называюць Сафійскім, бо яго збудавалі ў гонар святой Сафіі. У перакладзе з грэцкай мовы гэтае імя азначае "мудрасць".

Велічны гмах на стромкім беразе ракі будавалі ўсёй грамадой. Гэта быў першы каменны храм у Полацку, а магчыма і ва ўсёй Беларусі. Ён меў сем купалоў з пазалочанымі крыжамі. Знадворку храмы тады не атынкоўвалі і не бялілі, а таму сцены сабора былі не белыя, як сёння, а паласатыя: пласты цэглы і каменняў чаргаваліся з пластамі будаўнічай рошчыны.

Услед за будаўнікамі ў сабор прыйшлі мастакі. Яны размалявалі сцены казачна прыгожымі колерамі: залацістым, чырвоным, смарагдава-зялёным… …З гэтых малюнкаў, што называюцца фрэскамі, глядзелі святыя ў багатым урачыстым адзенні.

Падлогу майстры выклалі з рознакаляровых плітак, і яна была падобная на дзівосны кілім. У высокія вузкія вокны лілося сонечнае святло, а са столі галоўнага купала пазіраў з фрэскі сам Ісус Хрыстос.

У Сафійскім саборы не толькі маліліся Богу. Палачане прымалі там замежных паслоў, абвяшчалі вайну і падпісвалі мір, захоўвалі бібліятэку, якую пачаў збіраць яшчэ князь Ізяслаў. Прымайстраваўшыся недзе каля акенца, вучоны манах старанна выводзіў тут радкі Полацкага летапісу. Пад сценамі сабора гараджане збіраліся на свае агульныя сходы, што называліся вечам. Там вырашаліся галоўныя дзяржаўныя справы. Веча магло нават выгнаць князя. На землях усходніх славянаў Сафійскія саборы, апрача Полацка, былі яшчэ ў Кіеве і ў Ноўгарадзе – у трох найбольш буйных і магутных гарадах. Полацкі сабор можна назваць сэрцам старажытнабеларускай дзяржавы.

**Так выглядала старажытная Сафія Полацкая**

Ворагі Беларусі не раз хацелі разбурыць яго. Сабор давялося некалькі разоў перабудоўваць, і сёння ён зусім не такі, як за князем Усяславам. На пакладзеным у парозе храма вялікім камені старажытныя будаўнікі напісалі свае імёны: Давыд,Тума, Мікула, Копысь… Гэты камень знайшлі археолагі, і ён стаў музейным экспанатам.

Кожны, хто трапляе ў Полацк, захапляецца прыгажосцю Сафійскага сабора. Палачане з любоўю называюць яго проста Сафіяй або Сафійкай, а пісьменнікі параўноўваюць з белым караблём, што плыве ў чыстым небе над Дзвіною.

## Бітва на Нямізе

Усяслаў Чарадзей праславіўся і сваімі ваеннымі подзвігамі. Сабраўшы моцную дружыну, ён перамог войска наўгародцаў, загадаў зняць з наўгародскай Сафіі званы і прывезці іх у Полацк. Потым Чарадзей зрабіў яшчэ адзін удалы паход на землі, дзе жылі літоўцы.

Поспехі палачанаў страшэнна напалохалі іхніх ворагаў. Трое сыноў Яраслава Мудрага на чале з кіеўскім князем Ізяславам напалі на Менск. Горад быў спалены, усіх мужчын пасеклі, а жанчын і дзяцей забралі ў палон.

Усяслаў не мог дазволіць варожай дружыне прарвацца ў глыбіню Полацкай дзяржавы. Два войскі сышліся паблізу Менска на рацэ Нямізе. Цэлы тыдзень яны, ашчацініўшыся дзідамі, стаялі насупраць адно аднаго ў глыбокім снезе, а тады князь Чарадзей падняў над галавою руку з мячом, і закіпела бітва. Звінелі мячы, ламаліся ад смяротных удараў дзіды, застывала на снезе гарачая кроў. Старажытны паэт напісаў пра тую сечу:

*Нямігі крывавыя берагі*
*не збожжам былі засеяны зноў –*
*засеяны косцьмі рускіх сыноў.*

Шмат Усяслававых воінаў палегла, аднак палачане баранілі радзіму, і гэта прымнажала ім сілы. Яны не пусцілі чужынцаў на нашу зямлю і прымусілі сыноў Яраслава адступіць.

Бітва на Нямізе адбылася ў 1067 годзе. Апавядаючы пра яе, летапісцы ўпершыню ўспомнілі ў сваіх запісах Менск. Ад гэтага года сталіца Беларусі і лічыць свой узрост.

## У палоне

Не спадзеючыся перамагчы ў адкрытым баі, ворагі Полацкага княства вырашылі дзейнічаць хітрасцю. Улетку таго самага года два войскі сустрэліся зноў каля горада Воршы. Усяслаў стаяў з дружынаю на адным баку Дняпра, кіяне – на другім. Кіеўскі князь Ізяслаў запрасіў Чарадзея на перамовы і пакляўся, што не ўчыніць полацкаму валадару ніякай крыўды. На знак свае праўдзівасці ён перад усім войскам пацалаваў крыж.

Тым разам мудры Усяслаў памыліўся. Узяўшы з сабой двух сыноў, ён пераплыў на чоўне раку і без зброі і аховы зайшоў у шацёр да кіеўскага князя. Той крыва ўсміхнуўся і махнуў рукой. З усіх бакоў наляцелі дружыннікі, і палачане ўмомант ляжалі на доле, звязаныя вяроўкамі.

**Жыхары Кіева вызваляюць Усяслава Чарадзея з поруба.** *Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу*

Знакамітых палоннікаў завезлі ў Кіеў, закавалі ў цяжкія кайданы і кінулі ў зямляную турму.

Гэта была халодная і сырая яма, накрытая зверху ў тры накаты бярвёнамі, з маленькім акенцам, праз якое ледзьве тачылася паветра. У акенца вязням прасоўвалі кавалак хлеба і збанок з вадою.

Усяслаў страшэнна пакутаваў ад знявагі і здзекаў. Ён баяўся, што сыны так і памруць, не ўбачыўшы болей сонца. Але трое палачанаў з роду Рагвалода мужна трывалі голад і холад. Ім дапамагла думка пра Бацькаўшчыну. Князь і ягоныя сыны ведалі, што іх чакаюць на радзіме.

У той час на Кіеўскую зямлю напалі качэўнікі-полаўцы. Войска князя Ізяслава было разбіта. У Кіеве пачалося народнае паўстанне. Людзі патрабавалі зброі і коней, каб самім ісці супроць полаўцаў.

Ізяслаў пабаяўся, што перад гэтым кіяне расквітаюцца з ім. Ён уцёк, а паўстанцы вызвалілі Усяслава Чарадзея і абвясцілі яго сваім князем.

Полацкі ўладар не збіраўся надоўга затрымлівацца ў чужым горадзе. Ён вярнуўся дадому і праз некалькі гадоў вызваліў дзяржаву ад захопнікаў.

## Росквіт Полацкай дзяржавы

За Усяславам Полацкае княства дасягнула найбольшай магутнасці. Ягоную ўладу прызнавалі Віцебск, Браслаў, Заслаўе, Ворша, Копысь, Менск, Лукомль, Лагойск, Друцк, Барысаў, Крывіч-горад які стаяў на месцы цяперашняй Вільні… Полацку плацілі даніну продкі сучасных латышоў. Парадніцца з Чарадзеем хацелі самыя знакамітыя валадары з іншых дзяржаў. Усяславава дачка стала жонкаю імператара вялікай і багатай краіны Візантыі.

У Полацку тады жыло дзесяць тысяч чалавек. Такіх буйных гарадоў на свеце было мала, а Масква, напрыклад, яшчэ зусім не існавала.

Князь з сям'ёй займаў двухпавярховы драўляны хорам са ввятліцамі і спачывальнямі, з вялікай палатай, дзе магло сесці за стол сто гасцей. У княжых стайнях білі капытамі зямлю сотні коней. У сховішчах было багата харчовых прыпасаў і зброі.

Далёка ў свеце ведалі полацкіх купцоў. Часцей за ўсё яны везлі ў іншыя краіны воск, мёд і футра каштоўных звяроў: собаляў, гарнастаяў, вавёрак, лісіц… Іншаземныя купцы прадавалі нашым продкам соль, алей, віно, медзь, свінец і волава. Такіх грошай, як цяпер, не было, і людзі разлічваліся на рынках срэбнымі зліткамі або вязкамі шкураў.

## Старажытныя майстры

Шмат хто з гараджанаў займаўся рамяством. Вучоныя-археолагі падлічылі, што ў Полацкім княстве жылі майстры амаль ста розных спецыяльнасцяў.

Ганчары рабілі з гліны міскі, талеркі, збаны, кубкі і ўсякі іншы посуд. Ткачы ткалі з ільняных і ваўняных нітак тканіны. Краўцы шылі адзенне, а шаўцы – абутак. Гарбары выраблялі шкуры. Ла дзейнікі будавалі тагачасныя караблі – ладдзі і струні. Жарнасекі высякалі з цвёрдага каменю жорны, а з мяккага – вастрыльныя брускі, абразкі ды крыжыкі.

Касцярэзы выразалі з косці грабяні, гузікі і шахматныя фігуркі, бо старажытныя беларусы надта любілі гэтую гульню. Бондары майстравалі бочкі, дзежкі і цэбры. У кузнях працавалі кавалі.

Славіліся майстэрствам ювеліры. Яны забяспечвалі жанчын і дзяўчат рознымі ўпрыгожваннямі – пясрсцёнкамі, бранзалетамі, караллямі. Беларускам здаўна падабалася насіць бурштынавыя пацеркі. Людзі верылі, што гэта спрыяе здароўю і дапамагае ад бяссоння.

Сёй-той, магчыма, думае, што нашыя далёкія продкі хадзілі ў лапцях, але гэта не так. Абутак і ў гараджанаў, і ў вяскоўцаў быў тады скураны. Жаночыя і дзіцячыя чаравічкі вышывалі каляровымі ніткамі. Адзенне чалавека залежала ад ягонага багацця. У святочны дзень княгіня выходзіла з харома ў вышываных золатам чаравічках і ў дзвюх падпяразаных залатым поясам сукенках-залататканках – кароткай верхняй і доўгай ніжняй. Белую шыю песцілі шырокія каралі з каштоўных камянёў, а ў валасах ззялі на сонцы залатыя або срэбныя падвескі.

Сярод усіх майстроў князь і дружыннікі асабліва паважалі збройнікаў. Яны выкоўвалі незаменныя на вайне сякеры і мячы, прычым такія вострыя, што імі можна было галіцца. У баі воіна абараняла ад варожага ўдару кальчуга. Яе рабілі з маленькіх жалезных кольцаў. Уявіце, што часам на адну кальчугу іх патрабавалася ажно 60 тысяч.

Ішла слава пра полацкіх майстроў-лучнікаў. На блізкай адлегласці ад стралы з жалезным гартаваным наканечнікам не ратавалі ні шчыты, ні кальчуга. Нават праляцеўшы сотню крокаў, такая страла лёгка прабівала дубовую дошку таўшчынёю з палец. Лук даставаў крокаў на 300-350. З ім не толькі ваявалі, але і смела хадзілі паляваць на буйнога звера, а па дарозе маглі зрэзаць стралою гусь, качку або чаплю.

Ад назваў старажытных майстроў утварылася шмат прозвішчаў. Калі ў вас ёсць знаёмыя хлапчукі ці дзяўчынкі з прозвішчамі Ганчар, Ганчарык ці Ганчароў, значыцца, нехта з іхніх далёкіх продкаў быў ганчаром. Няцяжка здагадацца, чым займаліся даўнія родзічы Кавалёў і Кавалёвых, Бондараў і Бондаравых, Шаўцовых, Краўцовых і Жарнасекаў.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Жывая кніга прыроды

**Для педагогаў дашкольных устаноў**
**Укладальнік Ірына Марачкіна**

## ВОСЕНЬ, ВЕРАСЕНЬ

Ёсць такая расліна – верас. Верасы цвітуць у верасні. Адсюль і назва месяца.


*Цвітуць верасы*

У верасні дрэвы апранаюцца ў прыгожы стракаты ўбор.

У верасні выбіраюць бульбу, збіраюць гародніну, садавіну.

У верасні паспяваюць журавіны.

У верасні адлятаюць у вырай птушкі, а рушныя звяры мяняюць сваё футра на больш цёплае.

У канцы верасня бывае некалькі дзён цёплае надвор'е. Гэтую пару называюць бабіным летам.

### ВЕРАСЕНЬ

Верасень
Квітнее,
Верасам
Сінее.

Ластаўкі
У нябеснай шыры
Чарадой
Ляцяць у вырай.

Сад багаты,
Агароды
Пахнуць кропам,
Пахнуць мёдам.

У гуртку
Дзяцей вясёлых
Ранкам крочыць Янка
У школу.

*Авяр'ян Дзеружынскі.*

### ЖЫЦЕНЬ

ЖЫЦЕНЬ – бог восені. Беларусы ўяўляюць Жыценя крыху грозным, нібыта вечна нечым незадаволеным. Жыцень нізкага росту, худы, даволі сталага век з трыма вачыма (трэцяе на патыліцы), з ускудлачанымі валасамі. Ходзіць вельмі ціха, сагнуўшыся. Расхаджвае ён па палях і агародах, каб агледзець, ці ўсё добра прыбрана, як павінна быць у добрай гаспадарцы. Калі Жыцень знойдзе на жніўніку шмат каласкоў, пакінутых жнеямі, збірае іх і, завязаўшы ў адзін сноп, пераносіць на іншы жніўнік, дзе сабрана ўсё чыста, з ашчаднасцю. Вынікам гэтага здараецца неўраджай у наступным годзе на тым месцы, дзе Жыцень знайшоў шмат пакінутых каласоў, і, наадварот, вялікі ўраджай на той ніве, дзе пакінуў ён сноп.

Тое ж бывае і з агароднікамі, якія наведвае Жыцень і ў якіх знаходзіць нядбайнасць, гаспадарскія непарадкі. Жыцень з'яўляецца беражлівым і старанным гаспадаром, каб папярэдзіць іх пра надыход небяспек і такім чынам даць ім магчымасць падрыхтаваць запас хлеба на галодны год.

Жыцень, паводле беларускага падання, прысутнічае ў полі пры восеньскай сяўбе. У час пасеваў ён з грозным выглядам расхаджвае па пасеяным жыце і нібыта ўсё прыглядаецца да чагосьці ўнізе, утоптвае ўсялякае зерне, каб лепш увайшло ў зямлю і хутчэй апладнілася зямельнымі сокамі.

**З беларускай міфалогіі.**

### ТЭЛЕГРАМА

Паедзем у Антонаўку!
Паедзем на антонаўку!
Там у дзеда, у Антона,
Ужо выспелі антоны.
Імі пахне тэлеграма
Мы яе чытаем з мамай:
"Для выдатніка Антона
Ёсць выдатныя антоны".

*Алесь Пісьмянкоў*

### БЕЛАРУСКАЯ БУЛЬБА

Бульбу варацъ,
Бульбу смажаць,
Бульба наша –
Любата.
З беларускай бульбы
Стравы –
Смаката.

*Авяр'ян Дзеружынскі*

### ВОСЕНЬ

Адшумела лета
Роснымі лугамі,
Апусцела поле,
Травы адцвілі.
Праплываюць хмары
Нізка над стагамі,
І ляцяць у вырай
З крыкам журавы.
Не сціхае вецер
Над асеннім полем,
Над ракой рыбацкі
Агеньчык патух,
І ляціць паволі
Ад старой таполі,
Кружыцца над лугам
Белы-белы пух.

На рабіне скачуць
Шустрыя сініцы,
Пад даждом намоклі
Клёны і дубы.
Налілася сокам
Спелыя брусніцы,
І абапал сцежак
Выраслі грыбы.
Заліваюць пчолы
Чыстым мёдам соты,
І да кожнай хаты
Нашага сяла
З дружнаю работай,
З добрым умалотам,
Выспеўшы на сонцы,
Восень надышла.

Сяргей Грахоўскі.

### ВЕРАСЕНЬ

Месяц Верасень багаты – у яго залатыя шаты. Ходзіць ён па зямлі і дорыць ёй свае багацці.

Зайшоў Верасень у сады цяністыя, атрос ігрушы залацістыя. Асыпаў з яблынь духмяныя антонаўкі, чырвоныя крамяныя малінаўкі, захінуў туманамі слівы сінія...

Выйшаў у поле, наставіў мяхоў бульбы, на лузе склаў у копы траву і падаўся ў лес.

Ідзе верасень лесам, прыбірае дрэвы ў дарагія ўборы: бярозінку – у золата, асіну – чырвань; на дубы навесіў медны ўбор. Не забыўся і пра каліну ды рабіну, прыхарашыў іх пацеркамі чырвонымі. Пад пянечкі ды пад кусточкі пасадзіў грыбочкі... Азірнуўся Верасень, паглядзеў навокал: гарыць-палае асенні лес! Вось толькі ўнізе трава сухая і пажоўклая. Няма красак, адцвілі за лета.

Страсянуў Веравсень з дрэў буйную расу – і дзіва! Упалі да камлёў зялёных сосен ды залатых бяроз драбнюткія званочкі! Зацвілі верасы!

Загулі, зазванілі званочкі! Клічуць дзяцей у школу.

Багаты месяц Верасень, багаты! Ён падараваў зямлі пышныя шаты. Насыпаў поўныя засекі збожжа. Адзеў у золата лясы і расквеціў верасы.

Таму і завуць яго Верасень.

Клаўдзія Каліна.

### ПАВУЧОК

Павучок – ткач – ткачок
Сеў на тоненькі сучок.
Павуцінне сваё праў

І на голлейку снаваў.
Нітку да ніткі –
Камарам на світкі.

*Ларыса Геніюш.*


**Верасень**

# Давайце спяваць па-беларуску

## Па дарозе з Вільні на Полацак

*Музыка Міколы ЯЦКОВА* *Словы Леры СОМ*




По дарозе з Вільні на Полацак
Уцякаем ад навальніцы,
Нам маланкі б'юць наўздагонку
Нам грамы раздзіраюць вушы.

По дарозе з Вільні на Полоцак,
Са сталіцы і да сталіцы
Мкнуцца нашыя абалонкі,
Ненайдзены прытулак душаў.

По дарозе з Вільні на Полацак
Шаты дрэваў, крыжы і дахі,
Часткі вечнага краявіду,
Непаўторныя і ў падобным.

По дарозе з Вільні на Полацак
Адыходзяць начныя жахі,
Тыя, што прагнаюць дзідай
Розум хіжы і самаробны.

По дарозе з Вільні на Полацак
Назаўсёды імчацца дадзена.
Можа, нехта за нас памоліцца,
Да дзівацкіх учынкаў схілены.

І дарога з Вільні на Полацак –
Вось адзінае, што не скрадзена.
Нам не трапіць ніколі ў Полацак,
Нам ніколі не ўбачыць Вільню.

## Стальныя карункі



**Натхнёна куе метал гарадзенец Юрась Мацко (на здымку). Адна з апошніх яго работ - рэстаўрацыя брамы Фарнага касцёла ў Горадні - помніка архітэктуры XVIII - XIX стагоддзя.**

Фота Генадзя Сямёнава, Аляксандра Талочкі, БелТА.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida'l.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 20. 09. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 2598
**Падпісны індэкс:** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 60 000 руб., 3 мес.- 180 000 руб.
***Кошт у розніцу:*** 15 000 руб.